Poczta opłacona ryczałtem.

АДЗІН № КАШТУЕ 35 ГР.

№ 2. [3] СЕРАДА 4-га ЛЮТАГА 1925 г. Год II.

# АВАДЗЕНЬ

ДВАТЫДНЕВІК САТЫРЫ, ЖАРТАЎ І СЬМЕХУ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Wilno Завальная 7, пры кнігар.

ПАДПІСКА: |з дастаўкай да хаты|-на 3 мес.=1зл.80гр., на паўгода=3 зл. 50 гр., на год=7 зл.00гр., за граніцу-на год=ТРЫ даляры...

## ПАМІЖ БЕЛАРУСАЎ.



-Мірон! Ці думаў ты калі, што гэдак, вось, наш "падабізны" па ўсім сьвеце "А В А Д З Е Н Ь" разнясе?

-Гм...Гэдак я ня думаў. Я толькі заўсёгды спадзяваўся, што прыйдзе час, калі і ў наша ваконца засьвеціць сонца...

## ДА ЎСІХ ЧЫТАЧОЎ.

Выпушчаючы гэты нумар, | агулам трэцьці | нашае часапісі АФАРБАВАНЫМ, на спробу, перапрашаем паважаных чытачоў за неяснасьць нікаторых літэрау. Мы жадаем даць ВАМ ня толькі цікавага, а і прыгожага „АВАДНЯ". Гуртуйцеся, браты, каля нашай бязпартыйнай, АГУЛЬНАЙ ды сьмяхотлівай газэткі. Падтрымлівайце матэрыяламі і акуратнай прысылкай грошы. ПАШЫРАЙЦЕ „АВАДНЯ" паміж сваіх знаемых, заахвочайце да падпіскі. Маючы падтрыманьне ад ВАС моральнае ды матэрыяльнае, спадзяемся неўзабаве паставіць „АВАДНЯ" на належную вышыню.

Рэдакцыя.

### ПРЫДАЛОСЯ...

Чуць ківаючы нагамі  
Шоў да хаты дзед-жабрак  
І спаткнуўшыся на камень  
Наракаць пачаў ён так:  
 -Вось нашто, сярод дарогі,  
 Гэты камень тут ляжыць  
 Ажно глядзь-пад самы ногі  
 Прэць сабака ды вурчыць.  
Тут, ня думаючы многа,  
Наш жабрак за камень хваць.  
Дык сабака, з страху тога-  
Толькі яго і відаць.

Алена.

---

### ГАВОРКІЯ.

Мокраю, дажджлівaю парой ехалі два паны. Коні памаленьку шлёпалі па гразі. Гутарка ня клеілася. Ехалі і маўчалі... Раптам адзін вываліўся ды лежучы у гразі звяртаецца да другога і кажа:

-Ну й пагодка. Каб яна прапала! Як мысьліш, суседзе?

Той маўчыць. На другі дзень толькі, як сам зваліўся, адказаў:

-Так, суседзе, дрэнная...

Ш..а.

### ДОБРЫ ПРАМОЎЦА.

Поп надта добра гаварыў казаньне ды так сам сваей гаворкай заахвочаўся, што у той момант нічога ня чуў і ня бачыў.

На адным казаньні так доўга так цікава казаў, што ўсе людзі павыхадзілі з царквы, а ён усе гаворыць...

Нарэшце, падыходзе да яго царкоўны стараста ды кажа:

-Бацюшка! Ці доўга будзеце гаварыць?

-А што?

-КАЛІ Яшчэ доўга, дык на-це ключы...

-

-Як скончыце, замкніце царкву, Я пайду ужо дамоў-захацеў есьці.

С---к.

### ФАТОГРАФ.

Фатаграф здымае патрэт з нябошчыка. Наладзіўшы свой апарат як трэба, зварачаецца да труна:

-Ну, цяпер прашу не варушыцца!

С...к.

---

## Баязліві.

Была-б праўда, аб чым баюць,
Што верх нашы атрымаюць,
Дык пайшоў-ба разам з імі.
Аднак носу лепш ня сунуць,
На ўсіх разам зверху плюнуць,
Тых і гэтых зваць чужымі.
Ой, лепш быці на старожэ,
Нехай бьюцца, а хто зможэ
О, дык я за тых і з тымі.

Алёна.

---

## НЯЎДАЛЫЯ СХОВЫ...

Ксёндз ехаў па-калядзе. Заежджае да вёскі.
У першай хаце жылі бедныя. Матка схавалася у скрыню, а бацька на гару. Ксёндз увайшоў да хаты, зняў брыль ды паклаў на скрыні, сам пачаў сьвяньціць...

Дзяўчынка, якая адна толькі была застаўшыся у хаці, пачала голасна плакаць... Ксёндз пытае:-

-Чаго ты?

Тая, праз сьлёзы адказуе:-Ксёндз маму націснуў брылём...

Ксёндз дагадаўся, адчыніў скрыню,.. Кабета стыдліва кінулася вітацца... Тым часам дзяўчынка рада, выбегла ў сені ды ляскаючы далонямі крычэла:

-Татка, татка! Лезь з гары: Ксёндз ужо мамку знайшоў у скрыні!

А. Васілеўскі.

---

## НЯВІННА ПАСУДЖАНЫ.

Злавілі злодзея, які, праходзячы вуліцай украў з вакна гадзіннік.
СУДЗЬДЗЯ:-чаму ты украў гэта?
Злодзей:

-Я ня ўкраў пане судзьдзя! Было дзела так: я ішоў вуліцай,-а гадзіннік ішоў на вакне, дык мы і пашлі сумесна...

Восіан"

## Жабракі не спакойны.

Ці то праўда ёсьць, ці не,
Ня буду я спорыць
Аднак, чуць прыйшлося мне
Што людзі гавораць,
Што пан Г. усёж-такі
Завядзе парадкі
Каб, нарэшце, жабракі
Плацілі падаткі.
Дык пачуўшы жабракі
Сталі „валнавацца"
І ўрадзілі, бядакі,
Ўсім на сход сабрацца.
Вось пачалі прыхадзіць
І казаць прамовы,
І згадзіліся зрабіць
Гэты пастановы:
„Ня прызнаці ні зашто
„Гэтыя парадкі
„Ды ня будзе з нас ніхто
„Плаціці падаткі.

„Лепш ня станем жабраваць
„Ў астатку сказалі
„І спакойна будзем спаць,
„Каб нас не чапалі."

С.К.

---

## Адказаў...

ПАН. --Я прасіў вас прынясьці віна бутэльку і кубак вады...

Служака. --Вада, паночку, ужо ў віно наліта...

„Восіан".

---

## ВЫТЛУМАЧЫЎ...

-Вы быдта-бы казалі аба мне, што я асёл. Ці гэта праўда?

-Гэта праўда, але я, асабіста ні казаў гэтага...

---

НАСТАЎНІК ДА ВУЧНЯ:- Чаму салавей, як пяе (песьні), закрывае свае вочы?
ВУЧАНЬ:-Каб ведалі вы, што ён іх умее на памяць.

С----к.

## У МЕШЧАНСКАЙ СЯМЬЕ.



Бацька пытаецца у сына:
-З кім ты забаўляўся,як мяне дома ні было?
МАТКА да сына:-Кажы-з мамаю!
СЫН:-З мамаю.
БАЦЬКА:-А мама з кім?
МАТКА ізноў:-Кажы, сынок,з Бозяй!
Сын паставіў вочы на матку ды кажа:
-Ці Бозя ходзіць у форме ды чорных ботах?..

С----к.

:::::::::

## СЬВЕЧКА...

Купіў сьвечку раз купец,
Падае другому
Дый гаворыць зза плячэй:
"Сяргею сьвятому!"
А той сабе ні дачуў,-
Падае другому
Дый гаворыць зза плячэй:
"Андрэю сьвятому!"
Пашла сьвечка па руках,
А той паглядае,
Вось-жа стараста наперад
З ею выступае,
Да Андрэя проста йдзе...
Купец як папрэцца
Паміж людзей,наўпярод,
Гвалтам ён іраецца.
-Да какому,закрычэу,
"Лепіш,дуралею!
Ня энтому,говорят!
Говорят,Сергею!"

С украінскага Ш---а.

ЧЫТАЙ САМ АВАДНЯ"
ДАВАЙ ІНШАМУ.

## КАРОТКАЯ ПАМЯЦЬ.

Помню ноч і помню лета...
Добра помню той барок,
Помню добра было гэта
Так:прыйшла ка мне Анэта
Ды сьмяецца: ты-Пятрок!
Помню добра,што на гэта
(Сьведкай гэтаму барок)
Адказаў я:-Я,Анэта!
Далі-Бог,я твой Пятрок!
Помню добра,цераз лета
Помню добра ў шэры змрок,
Помню так былося гэта:
Прынясла дзяцё Анэта
Ды і плача:-Ты,Пятрок?
І здаецца,што на гэта
(Надта цёмны быў ўжо змрок)
Адказаў я :-Не,Анэта,
Далі-Бог,я не Пятрок!

П---а.

---

## НЯ ЎСЕ РОЎНА.

Ехаў пан з мужыком ля крыжа,Мужык скінуў шапку ды пабожна перажагнаўся,а пан толькі усьміхнуўся.
Хутка па дарозе ім папаўся вярстовы слуп;пан гаворыць да мужыка:-Жагнайся,-усё-ж роўна дрэва,ці крыж ці слуп!
-А чаму пан,вітаючыся з паняй цалуе рукі,а ня..ногі.Усёроўна цела.



-Пятрок!З чаго гэта ты стаў раптам баяцца нашае najмiткі Зосі?
-Але,мамка...Учора татка хацеў яе пацалаваць,а яна ляснула яму па мордзе! С---к.

---

## СУЧАСНЫЯ ПАЖАДАНЬНІ ПАД злую мінуту...



-Каб на цябе ірноў падаткі...



КАБ на вас...



Барбос-Жучцы,якая яго укусіла:
-Каб ты спаткалася з ваўком.



...Каб ты ахаціўся...

---

Каб мода ня зьмянілася...

-Куды ты ляціш,сябра?
-Ды вось,бацыш,-кажа той,паказуючы папяровае пудэлка,-купіў жонцы дарагі капялюх ды бягу,каб хаця данесьці,ато мода можа зьмяніцца.

С----к.

---

## З ХАЎТУРАЎ.

...А мая ты сястрычка!Каб я ве-

---

-дала,што ты памраш,як-бы табе цукру КУПІЛА...

:::::::

-Янук,а Янук!
-Чаго?
-Чорт бяду ў хату прынёс: бацька памёр...

І.К.

---

## ВОСЬ ЧАМУ...

-Чаму людзі баяцца пекла?
-Бо яно страшна называецца.

## БЕЛАРУСКАЯ МУДРАСЬЦЬ.

**Загадкі.**

I. Чым падпалілі Каін і Абаль свае кастры?
2. Чым ангельцы голюць свае бараду і вусы?
3. Што стаіць на канцы кожнага мястэчка?
4. Куды лятуць птушкі захацеўшы есьці?
5. Чаго хоча бацян|бусял| клякочучы?

**Разгадкі.**

5. Адазвацца.
4. На жыр.
3. Літэра А.
2. Лязом.
I. Агнем.

о--о.

## НЕАПЛАТНАЯ ЛАСКА.

Пісар важна сядзіць
За пісьменным сталом
Ён сягоньня прыймае падаткі
Ды на зло людзі йдуць
Неяк вось па адном,
Аж у пісара робяцца складкі.
Што за ліха,Янук!
Падыходзь да стала
Цяпер будзем мы браць ад скаціны.
Рэгістрацыя ў нас
Ужо даўно прайшла
А ніхто не плаціў з нашай гміны.
Янук. Скольки табе
За худобу плаціць?
Але...У кнізе зьвядзём твае шчоты...
Процэнт твой можам тут
Да грама палічыць,
Хоць ня многа,а будзе работы.
Я не знаю,панок,скольки вам з мяне ўзяць
Бо кабыла нядаўна крапала
Не пакінуў яшчэ
Я па ей бядаваць:
Яна рукі ў мяне адабрала...
-Дык мо скуру садраў
І ужо жыду прадаў?
Гміна грошы табе не прашчае!
-Дамагаешся пан каб астаткі прадаў?
Нехай пан гэта мне выбачае!
-Як ня будзеш плаціць
Мусіш во напісаць
Да старосты аб гэтым падане...
-Колькі-ж пане,яно будзе мне каштаваць?
-Аднай скуры на гэта мо стане.-

М.Жальба.

## АСТРАНОМ І ГАСПАДАР.

-А.чаму сёньня ішоў дождж?
-Г. Бо учора мая карова была задраўшы хвост на хрыбет.
-А чаму на хрыбет?
--БО ведала што сёньня дождж будзе...

б...а.

::::::::::

## ПРАКТЫЧНЫ ЖЫД.

Жыд-крамнік сьпяшыўся на кірмаш. Дзеля таго, што воз у яго быў сапсаваны ,ён пазычыў сядло, каб ехаць вярхом. Узьдзеў сядло але ня так,як трэба. Прахадзіўшы сялянін заўважыў гэта і кажа да яго:
-Гірша,Ты не так узьдзеў сядло!
-Хэ,а чаму не так?
-Ты узьдзеў задам на перад.
--Гэ,гэ,гэ.Які ты дурню,Янка;адкуль ты ведаеш ,што я паеду наперад,-можа якраз мне трэба - ўзад...

Ш.

---

## ЧАЛАВЕК АД НАЛПЫ.

СЫН ДА БАЦЬКІ:--Тата,кажуць, што чалавек некалі радзіўся ад „налпы",ці гэта праўда?
-НУ.хіба ты ўрадзіўся ад - „налпы",а я то не,-адказаў бацька.

С----к.

## УСЕ РОЎНА.

Да войта прынясла баба ігрушаў,за інтэрэсам прыйшоўшы.Той і кажа:

-На што было нясьці:твае -дзеткі зласавалі-б.

-Ды яшчэ што,панок-начальнік, А я дзеткам скажу,што сьвіньня -зьела.

::::
::::

## ЦЕСНАЯ ГАЛАВА.

-Скажы сусед,чаму гэта Тодарчык,як пабываў у горадзі дык і мовы роднае забыўся?

-А я яму і кажаў:-куды табе брацца у навукі,калі твая галава цесная;бо ня ўсьпеіш аднаго навучыцца,а тоя,што умеў забудзішся, -ажно так і выйшла.

::::
::::

## ПАНАМ СТАЎ.

АНТОСЬ:-Што ты цяпер,Міхась,парабляіш?Даўно бачыў цябе...

Міхась:-Ня тыкайся са мной,бо я цяпер ня мужык,-сам не раўню сабе спаткаў:мяне усе паліцэйскія у Вільні знаюць,з камісарамі ды судзебнікамі часта гавару,сам прэзэс суда і той да мяне „ПАН"кажа. А ён да мяне сунуўся „Ты"называць!

::::

...Прыехаў беларус з вескі у Вільню ды захацеў праехацца на мягкай каламажцы;падходзіць да вазака ,пытаецца:

-Колькі возьмеш ,каб завязьці мяне на Зарэчча?

-Тры злотых...

-Ці ты ашалеў!Пусьці мяне на свае мейсца,дык я цябе за злотага завязу.

Падау Б--------а.



## ЗРАБІЎ ШТУКУ.

У пана быў аляпаваты хурман. Дзе і куды ён ні наедзе,усюдах яго ашальмуюць: то лейцы украдуць то пастронкі,ці вузьдзечку зьнімуць...Карае пан хурмана ды адзін раз і кажа:

-Чаму ты ніколі нічога ня ўкрадзеш,а толькі у цябе ўсе крадуць!

Аднаго разу,выехаўшы з места,хурман быў надта вясёлы і ўсё азіраўся на панскую валізку. Пан зацікавіўся дый пытае:

-Чаго ты,Мікіта,такі вясёлы?

-Эгэ,панок,і я сёньня зрабіў штуку!

-Што?-пытае пан.

-І я сёньня украў...

-Кажы што?

-Мазьніцу з дзёгцем.

-Каб ты-ж урапаў!Вось будзе брыдка ,як знойдуць!

-Ну не ў такім мейсцы схавана,каб знайшлі.

-Ну дзе-ж ты яе захаваў?

-Да панскай валізкі...

С---к.

---

## ВЕДАЎ ШТО НЯ ЛЮБІЦЬ...

Жыд,едучы у дарогу з сялянінам ,захаваў сабе пад сядзеньням перакуску.Вазьніца абмацаваў яе ды зьеў.

Сваей парой жыд стаў шукаць захаванае і,ня знайшоўшы , кажа да вазьніцы са злосьцьцю:

-Уй,Цімоха,Цімоха!Я тога-то не люблю.

-Я ж вось,і ведаў,што ты яго |сьнеданьня,| ня любіш,ну дык узяў ды зьеў.

С---к.

---

## СОН - НААДВАРОТ.

Лёкай,з вясёлым тварам,падае свайму пану боты раніцай.Пан пытае:

-Чаго,Кандрат,ты такі вясёлы?

-Я сёньня сьніў добры сон,быдта паня мне дала два злотых на водку,а пан -паўзлотага на табаку.

-Дурны-ж ты:сны трэба разумець наадварот.

-Я так і разумею,што ад пана дастану 2 зл.а ад пані-паўзлот.

С---к.

## НЕ ЗРАЗУМЕЛІСЯ.



-Замыкай дзьві.
-Што,паночку.
-Дзьві замыкай,
-Дзеля чаго гэта пану.
-Замыкай-жа.
-А як замыкаць пану,на кароуяму,ці....
-Ах,замыкай,жэбы цебе..
-Ну,дык...Мы.. Му..Му...
-О,згрозо!..

---

## ПАН І ЖЫД.

Пан заняў у хлеў са шкоды жыдоўскую карову і аддаў яе пад варункам,што жыд перад ім скажэць ненавісное слова „халера". Жыд таргаваўся,але згадзіўся. Прыйшоўшы да пана кажа ён:-Ну,халера.ты!" Пан загневаўся і"крыкнуў:-Нашто кажэш:ну-і ты?Скажы яшчэ раз!Тады жыд і кажа:-Не!-тое слова я раз сказаў„за карову",а ад сябе гэдак ні скажу ніколі...

Акыш.

## СВАЯ ПОЧТАА

Нашы грамадзяне ня так ужо санлівы,як усе аб іх думаюць ды пішуць у газэтах і кніжках...
Сьведчыць аб гэтым жывая прысылка падпісных грошы і матэрыялаў,чаму рэдакцыя дужа рада.
Падпіску атрымалі:ад кс.Гадлеўскага,Карпенюка,Сініцкага Яна,Капуцкага,Урбановіча,Латышонка,Міхноўскага,Потаповіча,Паўла Барыса,Самсыта,Біндзюка,Захаронка,Шышкова,Вільчыцкага,В.Кузьміча,Протаса,Ігнацага Мятлы,Хоняўка,Туронка,Караля,М.Сарокі,В.Жэймо,Конко,Петкевіча А.,Пазмаўскай,Козака,Каткоўскай,Талыша,Калядзянкі,С.Строк,ад Ворыка А.-па І зл.80 гр.: ад гр.Шыка,Яніны Ромэйко,і Шышко па 2 зл.: ад гр.Буськo-3 зл.:ад Яцыны з Вільні-4 зл.:ад сем.Уласава-5 зл.----
Журнал прышлём акуратна.
Шчырая падзяка гэтым перасылаецца за прысланые рукапісы грам.К.Сваяку,Алёне,Адвардаму Б.,Ш.і др.супрацоўнікам,
Маладэчанскіх мастакоў просім яшчэ аб рысункі,-з прысланых карыстаем.

Рэдакцыя.

---

КОЖНЫ НОВЫ ПАДПІШЧЫК-ГЭТА УЖО ПРЫЯЦЕЛЬ„АВАДНЯ" І ШЧЫРЫ ГРАМАДЗЯНІН...
ПАШЫРАЙЦЕ„АВАДНЯ" ПАМІЖ СВАІХ ЗНАЁМЫХ!

---

Рэдактар-Выдавец А.Васілеўскі.

Rysunki i druk odbito w Lit. Maca Wilno, Dąbrowskiego 3.